# *Дзівосныя авантуры Кубліцкага ды Заблоцкага*

**П'еса-казка ў 2-х дзеях**
**(у сааўтарстве з Пятром Васючэнкам)**

АСОБЫ

Пан Кубліцкі.
Пан Заблоцкі.
Дзеўка Дрыпа.
Кура-Шчабятура.
Страшыдла.
Цыганка.
Гетман Трыбуховіч.
Князь Дрыгайла.
Пастрыгач.
Цар Максіміліян.
Царэвіч Адолька.
Фіцьмаршал.
Людзі на кірмашы.

Гісторыя гэтая – пра знакамітых паноў Кубліцкага ды Заблоцкага. Ото ж былі паны! Колькі гузоў пазараблялі на свае галовы – усё праз фанабэрыю, прагавітасць, недарэчныя дзівацтвы. А галоўнае, надта пад'есці любілі. Пан Кубліцкі на сняданак, бывала, аплятаў засмажанага вепрука. Пан Заблоцкі адным махам мог выпіць цэлую барылу мёду. Нядзіўна, што гаспадарка ў абодвух звялася дазвання: ні курчаці, ні парасяці, хлеба ані каліва. Засталася на дваіх адна ўбогая хаціна ды невялічкая дзялянка рэпы на гародзе...

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### ЯЙКА АД КУРЫ-ШЧАБЯТУРЫ

### З'ява першая

Уздымаецца заслона, і перад гледачамі ўзнікае адзіны пакойчык ва ўбогай хатцы паноў. Пан Кубліцкі, надзьмуты, быццам вожыка праглынуў, ляжыць на лаве і разглядае партрэты сваіх продкаў. Пан Заблоцкі ў вялікай злосці ходзіць ад сцяны да сцяны, моцна грукаючы ботамі.

Кубліцкі *(раздражнёна)*. Хай бы пан Заблоцкі падбіваў боты не зялезнымі, а драўлянымі цвікамі. Яно танней і менш грукату.

Заблоцкі *(злосна)*. Хай бы пан Кубліцкі не брахаў абы-чаго, а пайшоў бы ў вёску ды папрасіў у мужыкоў хлеба!

Кубліцкі. О не, я не магу прасіць у мужыкоў-лапатнікаў, хай лепей я свае боты з'ем. А што – боты ў мяне дыхтоўныя, з казлінае скуры, дзёгцем наваксаваныя.

Заблоцкі. А ў мяне са свінячае скуры, затое гусіным шмальцам падмазаныя. Мае куды смачнейшыя.

Кубліцкі. Вось зараз зварым у чыгуне дый пакаштуем, чые смачнейшыя! *(Усхопліваецца з лавы.)*

Паны раскладаюць агонь, набухторваюць вады ў чыгун і кідаюць туды боты. Кожны свае.

Заблоцкі. Якраз да палудня зварацца. Але во дзе штука – хто будзе чыгун мыць, пад'еўшы?

Кубліцкі. Навошта пан пытае? Ясна хто. У каго боты шмальцам змазаныя. Пасля такіх ботаў чыгун ох як цяжка адмыць!

Заблоцкі. Брахня! Якраз ад дзёгцю чыгун будзе чорны, што мурза.

Кубліцкі. А я кажу, што гусінае сала брыдка пахне!

Заблоцкі. А дзёгцем адно мужыкі боты мажуць!

Кубліцкі. Пан ёсць грубіянам!

Заблоцкі. Ад хама чую! Дзе мая шабля?

Стаяць адзін проці другога, страшна вырачыўшы вочы, раз-пораз хапаюцца за бакі, дзе раней былі прычэпленыя шаблі.

Кубліцкі *(з'едліва)*. Хіба пан Заблоцкі забыўся, як аддаў сваю шаблю мужыкам за два кубельцы сала?

Заблоцкі. А ты, пане Кубліцкі, хіба не прамяняў свае зброі на два колцы кілбасаў?

Кубліцкі *(не стрываўшы)*. Але ж і смачныя былі кілбасы – з часначком ды кменам, проста цуд!..

Заблоцкі *(палагаднеўшы)*. Яно й сала было нішто сабе, асабліва як з цыбулькай ды з гурочкам...

Кубліцкі *(круціць носам)*. А што гэтак непрыемна пахне, ці не свінячая скура?

Заблоцкі. Не, гэта няйначай падсмалены казёл смярдзіць.

Кубліцкі. Авой, дык гэта ж нашыя боты зварыліся!

Падбягаюць да чыгуна і, разганяючы дым рукамі, зазіраюць у яго.

Заблоцкі. А дзе ж поліўка? Стаўлялі боты варыць, а яны – засмажыліся.

Кубліцкі. Відаць, пан замала вады ў чыгун уліў.

Заблоцкі. А нашто было такі вялікі агонь раскладаць?

Паны хапаюць з чыгуна па боту і пачынаюць іх есці. Ад такой далікатнай ежы панскія жываты бурчаць і скрыгочуць. Пан Заблоцкі злосна выплёўвае нешта назад у чыгун.

Няйначай падэшва. Халера, не зварылася чамусьці.

К у б л і ц к і. Што, нясмачна? Казаў жа я, каб не падбіваў пан боты зялезнымі цвікамі. З драўлянымі яно б уежней было.

З а б л о ц к і. Бачу я, што пан Кубліцкі разбіраецца ў стравах, як кот у каўбасных абрэзках.

К у б л і ц к і *(пакрыўджана)*. Хто? Гэта я не разбіраюся ў стравах? Хіба пан забыўся, якога адмысловага кухара я некалі выпісаў сабе з Парыжу? Хіба пан не ласаваўся ў мяне мядзведжаю шынкаю, калдунамі з зайчацінаю, пірагамі з дзічынаю? Уга! Мой кухар кожны дзень гатаваў новую страву. Ужо што толькі ні вымышляў, як толькі ні круціўся гэты кухар, каб дагадзіць мне і маім гасцям! Рабіў ён вужыную яечню, верашчаку з мышыных хвастоў, ціснуў чарвяковае масла, засмажваў цэлага каня ды саліў на зіму апельсіны. Бывала, возьме моху, чартапалоху ды ўсякага іншага патроху, змяшае з кажарынымі лапкамі, палье зверху жабурыннем – такая салата атрымаецца, што будзь здароў!

З а б л о ц к і. Было, ды сплыло. Ад такіх успамінаў яшчэ болей есці хочацца! Пасля ботаў у брусе ўсё адно пуста, не раўнуючы, як на таку.

К у б л і ц к і *(летуценна)*. Хутчэй бы наша рэпа паспела, казалі мужыкі, што надта смачная рэч – параная рэпа.

З а б л о ц к і. От калі наямося ад пуза!

К у б л і ц к і. А што не з'ямо, тое павязем у Смургонь на продаж. Накупляем тады розных страваў ды прысмакаў, абаранкаў з макам, марцыпанаў з гэрцамі – от смаката!.. А пад'еўшы, можна і пра сур'ёзныя рэчы падумаць. Вось я дык надта хачу ажаніцца. Дальбог, знайду сабе маладзенькую паненку, ясачку такую...

З а б л о ц к і. Эх, голад не свой брат, як засмокча, дык і на паненак забудзешся, і на шляхетнасць.

К у б л і ц к і. Авохці, надта ўжо есці хочацца...

У дзвярах паказваецца К у р а-Ш ч а б я т у р а – вялікая птушка ў пярэстым убранні. Нахіліўшы набок галаву, з цікавасцю разглядае гаспадароў убогае хаціны.

К у р а-Ш ч а б я т у р а. Чаго паны занудзіліся, мо есці хочуць?

З а б л о ц к і. А хто ты такая, каб у нас пытацца?

К у р а-Ш ч а б я т у р а. Я – заморская птушка, Кура-Шчабятура, гандлюю яйкамі. Багатым за грошы прадаю, бедным ды галодным за так. Магу і вам знесці яйка, калі вы галодныя.

З а б л о ц к і. А што нам за наедак з твайго яйка, калі мы з панам Кубліцкім глытаем іх адразу цэлае рэшата...

К у б л і ц к і. От каб з яйка ды куранятка вывелася!

К у р а-Ш ч а б я т у р а. А што? Можна і каб вывелася.

К у б л і ц к і. Але ж у кураняці толькі дзве маленькія ножкі... А ці можна, пані Шчабятура, каб у яго было чатыры нагі?

З а б л о ц к і. Не чатыры, а сорак! Падавай нам кураня-сараканожку!

К у р а-Ш ч а б я т у р а *(згаджаецца)*. Можна і гэта. *(Сядае на падлогу і пачынае несціся.)*

Паны бегаюць вакол Куры-Шчабятуры ды даюць каштоўныя парады.

К у б л і ц к і. Каб жа толькі куранятка не выйшла благенькае ды худое...

З а б л о ц к і. Каб сала на тым кураняці было з даланю таўшчынёю...

К у б л і ц к і. Ды ростам каб яно было з ладнага парсюка...

З а б л о ц к і. Не з парсюка, а з быка каб было велічынёю! Во!

К у р а-Ш ч а б я т у р а. Добра, панове, усё будзе так, як вы хочаце. *(Перастае нарэшце квахтаць – зносіць яйка. Яно вялізнае, як бочка, а можа, і большае.)* Вось вам яйка, панове. Толькі я такую гаргару не бяруся наседжваць. Ужо самі неяк старайцеся, а я пайду.

З а б л о ц к і. Гэта не курыная справа. Было б яйка, а мы ўжо самі дамо яму рады!

К у р а-Ш ч а б я т у р а выходзіць з хаткі. Пан Кубліцкі ды пан Заблоцкі бяруцца наседжваць яйка. Сядаюць на яго ўдвох як на лаву, яшчэ й месца застаецца – вунь якое аграмаднае яйка.

К у б л і ц к і. А што, пане Заблоцкі, добра будзе павячэраць смажаным кураняткам?

З а б л о ц к і. Чаму гэта – смажаным? Лепей звараным у крупніку.

К у б л і ц к і. Не, лепей засмажаным пад смятанаю.

З а б л о ц к і. А дзе пан возьме тае смятаны?

К у б л і ц к і. А дзе пан расстараецца тых круп?

З а б л о ц к і *(падскоквае).* Чым смажанае, то лепш пражанае!

К у б л і ц к і *(падскоквае).* Чым пражанае, то лепш вэнджанае!

З а б л о ц к і. Ой, злазьма хутчэй з яйка – па маім азадку нехта дзяўбе.

К у б л і ц к і. І па маім таксама!

Адыходзяцца на некалькі крокаў і баязліва назіраюць за ажыўшым яйкам. У яйку нешта грукоча, нешта стукоча, як у малатарні, асыпаецца шалупінне, і перад панамі з'яўляецца куранятка. С т р а ш ы д л а: гара гарою, наперадзе бычыныя рогі і свінячы лыч, назаду хвост, як у пеўня. Страшыдла рохкае страшным голасам, лопае скрыдламі. Нарэшце заўважае перапалоханых, збялелых паноў і сунецца проста на іх.

С т р а ш ы д л а. Што вырачыліся, ёлупы?! Есці хачу! Нясіце есці!

Паны страчваюць прытомнасць і, як падкошаныя, валяцца на падлогу. Страшыдла нахіляецца над імі, абнюхвае і круціць носам. Спрабуе грызці пас пана Заблоцкага, але выплёўвае, бо нясмачна.

Што за хацінка – няма і хлеба скарынкі. Прапахла панскаю пыхаю, ледзьве дыхаю. Пайду лепш на агарод, можа, вырасла рэпа ці гарох. *(Выпаўзае з хаты.)*

Паны нарэшце ачомваюцца, вохкаюць, чухаюць патыліцы.

К у б л і ц к і. Дык што ж гэта робіцца, панове? Заміж кураняці вылупілася нейкае страшыдла!

З а б л о ц к і. Не, каб на патэльню ўскочыць ды засмажыцца – сам есці патрабуе, нахаба!

К у б л і ц к і. Гэта ж ён можа ўсчыніць несусветны грандзёж ды гвалт. Пачне парсючкоў ды цялятак глытаць, прыгожанькіх паненак хапаць. Як усіх паненак перахапае, з кім я ажанюся?

Заблоцкі. Што паненкі... Не бяды, застанецца й пану Кубліцкаму якая-кольвек дзеўка-дрыпа. Але баюся, каб жа гэтая пачвара не ўбілася ў рэпу...

Кубліцкі *(кідаецца да акна)*. А дапраўды! Разлёгся, страшнік, паміж градаў і топча сабе нашую недаспелую рэпу, закідвае ў прадоннае горла, як у сячкарню!

Заблоцкі. Гэтак ізноў давядзецца зубы на паліцу класці! Няма чаго марудзіць, трэба ісці ваяваць страхалюда праклятага, іначай не будзе ані рэпы, ані нявестаў! Хапай, пане Кубліцкі, качаргу, а я вазьму чапялу, ды паспяшаемся на агарод!

Паны ўзбройваюцца качаргою ды чапялою і выбягаюць з хаты.

## З'ява другая

Панскі гарод, збоку – хатка. У гародзе паміж градаў пасвіцца Страшыдла: трушчыць разам з бацвіннем недаспелую рэпу, з якой у гаспадароў звязваліся ўсе надзеі на лепшую будучыню. З хаткі выбягаюць паны Кубліцкі ды Заблоцкі.

Заблоцкі. Раскірэка чортава, недаврак гэты! Рэпу павытоптваў, павырываў, каб табе зубы павырывала! Залез у рэпу і жарэ, каб яна табе бокам вылезла, каб ты жыватом качаўся! Столькі бацвіння аб'еў, каб табе моль галаву аб'ела, каб цябе свінні елі, каб ты зямлю грыз! Ану, прэч з гарода, не бачыш – шляхта ідзе!

Страшыдла. Маўчаць, пакуль зубы тырчаць! *(Працягвае грызці рэпу.)*

Кубліцкі. Ну ж і страхотная праява, авохці! Сядзіць, наладаванае рэпаю, дый думае, мабыць, дзе б якой паненкай закусіць. Але ўсё-ткі мы яго самі выседжвалі з яйка, значыцца, ёсць і ў гэтым стварэнні нешта шляхетнае. Паспрабуем пагаварыць з ім далікатна. Ідзіце, проша пана, тут няможна пасвіцца! Гэта нашая з панам Заблоцкім рэпа.

Страшыдла грызе рэпу.

Заблоцкі. Страхалюд гэны на лагодныя словы й не шманае, ані. Адно чэрава пагладжвае, нячысты дух.

Прыкінуўся, што на адно вока глухаваты, на адно вуха слепаваты.

Кубліцкі *(настойліва)*. Гэтак, як пан Страшыдла робіць, няможна рабіць. Нельга есці недаспелай рэпы ў чужым гародзе, і ў гаспадарчым статуце гэта напісана...

Страшыдла *(лянівa)*. Самі чытайце ваш сабачы статут, ён не для мяне напісаны. Я іншаземны грамадзянін, заморскае птушкі сынок.

Заблоцкі. От жа мярзотнік! Ну, пачакай, зараз шляхта дасць табе дыхту, дажджэшся, страшнік. *(Натапырвае вусы, ссоўвае бровы і рыкае грамавым голасам.)* Прэч з гарода, галгане!!!

Страшыдла ў адказ на гэта выплёўвае рэпу, набірае паветра – ды як свісне! Паны ад такога свісту адлятаюць на некалькі метраў і хляпаюцца вобзем. Падымаюцца, абтрасаюць з сябе пыл і спрытна займаюць абаронную пазіцыю за хатай.

Яшчэ й свішча, каб ты крывёю свіснуў, каб праз твае вушы вецер свістаў!

Кубліцкі. Уга, якое нявыхаванае Страшыдла!

Заблоцкі. На двубой хама памаўзлівага выклікаю! Шукайма секундантаў!

Кубліцкі. Які з гэткім двубой... Ён мо й не ведае, з якога канца за зброю брацца. Зусім не шляхетная натура.

Тым часам праз гарод шыбуе з аброццю ў руках дзеўка Дрыпа.

Заблоцкі. Куды ты, дзеўка? Не хадзі туды, наложышся галавой!

Кубліцкі. Хіба не бачыш, якая там поскудзь ляжыць?

Дрыпа, аднак, смела набліжаецца да Страшыдлы і з цікавасцю аглядае яго. Той касавурыцца, але не спяшаецца яе глытаць, не панаравіў, ці што.

Дрыпа *(разважліва)*. Чаму – поскудзь? Ніштo сабе жывёлінка. Магла б у гаспадарцы спатрэбіцца. Во каб яго запрэгчы ды араць на ім. У таткі якраз конь уцёк. *(Тузае Страшыдлу.)* Падымайся, даражэнькі, пойдзем у стайню.

**Страшыдла** *(збянтэжаны ад такога нахабства)*. На кім, на мне араць? Толькі з яйка вылупіўся – і адразу ў працу? Ды я ж не конь зусім, а малое куранятка.

**Дрыпа.** Яшчэ лепш. Днём паарэш, а ўвечары яйка знясеш. *(Тузае Страшыдлу настойлівей.)* Падымайся, залаценькі, пойдзем у куратнік.

**Страшыдла** *(абурана)*. Якія яйкі? Я – не курыца, я – пеўнік!

**Дрыпа.** І гэта няблага. Будзеш курэй вадзіць і кукарэкаць. Ану, падымайся, пакуль у суп не ўкінулі. *(Спрабуе накінуць на Страшыдлу аброць, той не даецца.)* А вы, панове, чаго раты паразяўлялі? Дапамажыце злавіць гэтага абібока.

Паны бачаць, што дзеўка не баіцца, і спяшаюцца на дапамогу: адзін з качаргою, другі з чапялою. Страшыдла зусім разгубіўся і дае дзёру з гарода, бегае вакол хаты, а паны і дзеўка Дрыпа – за ім.

**Страшыдла** *(раве немым голасам)*. Мамачка, ратуй, забіваюць! Не хачу араць, не хачу яйкі несці, не хачу кукарэкаць! Я яшчэ малы! Не хачу ў суп!

**Заблоцкі.** Вылезе табе бокам нашая рэпа!

**Кубліцкі.** Будзеш ведаць, як шляхту зневажаць!

На Страшыдлаў лямант з кудахтаннем прыбягае **Кура-Шчабятура** і бароніць яго.

**Кура-Шчабятура.** Збілі цябе гэтыя здаровыя бамбізы. Ну, не плач, дзіцятка. Хадзі да мамкі пад крылца. А вам, панове, як не сорамна крыўдзіць малое куранятка?

**Заблоцкі.** Нішто сабе – малое, ростам з быка і страшнейшае ад заморскага звера кракадзіла!

**Кубліцкі.** А што ўжо ненажэрнае – нібы статак дзікоў. Зглуміла блізу ўсю нашу рэпу.

**Кура-Шчабятура.** Якое заказвалі, якое наседжвалі, такое і вылупілася. І не такія яшчэ вырастаюць праз чалавечую зайздрасць ды прагавітасць. Хадзем адсюль, дзіцятка, самі не ведаюць, чаго хочуць. *(Пакідаюць гарод.)*

**Дрыпа** *(расчараваная)*. Шкада, такі конік збег! Прыйдзецца ісці свайго шукаць.

**Заблоцкі.** Гэй, дзеўка, пачакай!

Кублiцкi. Скажы нам хоць сваё імя, ясная паненка!

Заблоцкi. А яшчэ – ці маеш герб і якога ты роду?

Дрыпа. Клічуць мяне Параска, па вясковай мянушцы – Дрыпа. Гэта цераз тое, што ніяк не выпраўлю сабе новай сукні. Гарба пакуль, дзякаваць Богу, не маю, а родам я з суседняе вёскі, дачка селяніна Ахрэма Верацённіка.

Заблоцкi. Дазволь правесці цябе, Параска, да бацькоўскае хаты. Мала якая яшчэ пачвара ў ваколіцы завялася.

Кублiцкi (*убок*). А нішто сабе дзеўка, з ёй нават ажаніцца можна!

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### ПАДАЗРОНАЯ ТРУБА

### З'ява трэцяя

На лаве пад вярбою сядзіць дзеўка Дрыпа і румзае. З'яўляецца Цыганка, заўважае Дрыпу і спрабуе даведацца прычыну ейных слёз.

Дрыпа (*румзае*). Ы-ы-ы...

Цыганка. Што здарылася, красуня? Мо гарох не ўрадзіў ці малако ў каровы скісла?

Дрыпа. Не-е-е... Замуж хачу!

Цыганка. От гора, дык гора! А чаму ж не ідзеш? Ці жаніха няма?

Дрыпа. Жаніхоў ажно два, але не ведаю, якога выбраць. А татка не пускае ні за аднаго, ні за другога.

Цыганка. Гэта яшчэ чаму?

Дрыпа. Кажа, шалапуты абодва, хоць і шляхціцы. Ніякага рамяства рабіць не ўмеюць.

Цыганка. Адкуль гэта вядома?

Дрыпа. Пан Заблоцкі паспрабаваў сані майстраваць. Як пачаў полаз гнуць, дык жардзіна адскочыла ды бэнц! –

проста пану ў лабаціну. Пан Кубліцкі быў узяўся гаршкі ды міскі круціць на ганчарным коле. Але першаму ж купцу не дагадзіў, той зазлаваў, што гаршчок дзіравы, ды разбіў яго аб панаву галаву.

Ц ы г а н к а. Дзе ж гэта запісана, каб шляхціц сам майстраваў сані ды гаршкі ляпіў? Не такое шляхецкае рамяство!

Д р ы п а *(з надзеяй)*. А якое?

Ц ы г а н к а. Шляхецкае рамяство — на вараным коніку скакаць, шабліцай махаць, паганага ворага перамагаць. Ды іншыя геройствы чыніць. А пасля — мёд-гарэлачку смактаць, кілбасы ды кумпякі пуцаваць.

Д р ы п а *(узрадавана)*. Ах, гарэлку смактаць ды кілбасы таптаць яны добра ўмеюць!

Ц ы г а н к а. Значыцца, сапраўдныя шляхціцы! І астатняму навучацца. Дам табе добрую параду: выпраўляй сваіх жаніхоў у белы свет геройствы чыніць. Каторы з іх самае пачэснае геройства ўчыніць, за таго і замуж выходзь. А мне за добрую параду пазалаці ручку.

Д р ы п а. Дзякуй табе, цётачка. *(Дае Цыганцы грошай.)* Навучыла неразумную дзеўку, як з бяды выйсці. А вунь і мае жаніхі па адказ ідуць.

Ц ы г а н к а знікае. Да лавы падыходзяць паны К у б л і ц к і ды З а б л о ц к і, гжэчна вітаюцца і сядаюць поруч з дзеўкай Дрыпай.

К у б л і ц к і. Маё вам шанаванне, паненка Дрыпа!

З а б л о ц к і. Чэсць!

К у б л і ц к і. Дык што ж адкажа ясная паненка на маю прапанову? Ці пойдзе за мяне замуж? Я з такое нагоды паненцы Дрыпе новую сукню куплю...

З а б л о ц к і *(перапыняе)*. ...Ага, як толькі грошай дзе пазычыш. *(Да Дрыпы.)* Не слухай, красуня, выходзь за мяне. Я цябе на жарабцы вазіць буду. У мяне ёсць такі жарабец — агонь, а не жарабец. У стайню не можа прасунуцца, такі вялікі, дык ён я-а-ак разгоніцца і ў дзірку пад дзвярыма — шусь!.. Цьфу, пра што гэта я?

К у б л і ц к і *(з'едліва)*. Мусіць, гэта ў пана сабака такі, а не жарабец?

Д р ы п а. Ну, досыць, наслухалася ўжо я вас, панове. І вось мой адказ: годзе вам на печы ляжаць ды на партрэты продкаў паглядаць. Выпраўляйцеся ў белы свет розныя геройствы чыніць! Хто з вас будзе адважнейшы, за таго і замуж пайду. З тым і бывайце. Я пайшла карову даіць. *(Пакідае паноў.)*

З а б л о ц к і *(чухае патыліцу).* Геройствы чыніць — гэта занятак добры, шляхецкі. Толькі што за геройствы — без ботаў і зброі?

К у б л і ц к і. А яшчэ без амуніцыі ды правіянту? Дый хто нам за геройствы будзе грошы плаціць?

З а б л о ц к і. Эх, пане Кубліцкі! Цяжка ў наш час ажаніцца. Ці не лепш вярнуцца дахаты, балазе і рэпа сёлета ўрадзіла?

Раптам чуецца барабанны дробат, спявае паходны ражок. Проста на паноў маршыруе гетман Т р ы б у х о в і ч і махае шабляю.

Г е т м а н. Дзень добры, храбрыя лыцары! Хто такія будзеце, чаму седзіцё панурыя, насы апусціўшы, вусы не падкруціўшы?

К у б л і ц к і. Мы людзі шляхецкага роду, паны Кубліцкі ды Заблоцкі. Хацелі б учыніць якое-кольвек геройства, але не маем ані зброі, ані правіянту.

Г е т м а н. Вас-то мне й трэба! Я — вялікі каронны гетман Трыбуховіч, пасланы каралём Гарбузом Восьмым ваяваць непаслухмянага князя Дрыгайлу. Хадземце са мною, панове!

К у б л і ц к і. А ад чаго пачалася тая вайна, чаго не падзялілі кароль ды князь?

З а б л о ц к і. Можа, чорнага хорта?

К у б л і ц к і. Ці сівае кабылы?

Г е т м а н. Каб жа так! Ведаеце, гэты князь Дрыгайла нейкі несамавіты. Усе князі як князі: палююць, ваююць, балююць, з яснымі паненкамі амуры круцяць. А той дзівак улез па вушы ў навуку, змайстраваў сабе нейкую падазроную трубу ды ўсё глядзіць на неба, нешта ў ім вышуквае...

К у б л і ц к і. Як, проша пана, завецца тая труба?

Т р ы б у х о в і ч. Падазроная.

К у б л і ц к і. Можа, падзорная, а не падазроная?

Т р ы б у х о в і ч. Не, труба падазроная, вельмі падазроная. Бо што, калі князь навядзе сваю трубу на Гарбузоў палац

ды ўсе каралеўскія сакрэты падглядзіць? Вельмі падазроную трубу змайстраваў князёк. Вось і загадаў яго вялікасць Гарбуз Восьмы князя Дрыгайлу зваяваць, княскае войска паланіць, а падазроную трубу паламаць.

Кубліцкі. І гэта будзе геройскі ўчынак?

Гетман. Так, гэта будзе самы геройскі ўчынак.

Заблоцкі. А як, пане гетман, у вашым войску наконт харчу ды ўзнагароды?

Гетман. Харчу ў вас будзе ўволю: вэнджаныя куры, кілбасы, шынкі, карчагі з віном, разынкі, пернікі ды розныя іншыя прысмакі. А як пераможам князя Дрыгайлу, будзе вам і ўзнагарода — па сто залатых дукатаў на пана.

Кубліцкі, Заблоцкі *(разам)*. О, тады згода!

Гетман. Рушце, адважныя воі, за мною, выдам вам зброю, выдам амуніцыю ды павяду на пазіцыю.

Выпраўляюцца на вайну. Гучыць ваяцкі марш.

## З'ява чацвёртая

На бярозавым троне на пагорку сядзіць князь Дрыгайла, сілкуецца пражаным гарохам ды назірае праз падзорную трубу за ходам бітвы. Бухаюць гарматы, гахаюць гакаўніцы, свішчуць кулі. Нарэшце чуюцца салют і крыкі: «Віват! Віват! Хай жыве непераможны князь Дрыгайла!»

Дрыгайла. Віват! Віват! Я перамог! Войска караля Гарбуза разбітае! Гетман Трыбуховіч уцёк з поля бою, пакінуўшы зброю і правіянт. Дулю яму, а не падзорную трубу. *(Пераводзіць трубу на неба.)* Цяпер ізноў можна назіраць за зоркамі і Месяцам. *(У той бок, адкуль чуюцца крыкі.)* Гэй, вы там! Годзе галёкаць! Перамаглі ворага — і добра. Я на камету гляджу.

На сцэну асцярожна выпаўзае, задам наперад, пан Кубліцкі, перапэцканы порахам, у пашкуматанай вопратцы, але затое і з мехам у руках. Насустрач яму сунецца гэткі ж мурзаты пан Заблоцкі, таксама рачкуючы і таксама з мехам. Паны сутыкаюцца і, напалоханыя, разлятаюцца ў розныя бакі.

З а б л о ц к і. Пан Кубліцкі!

К у б л і ц к і. Пан Заблоцкі!

З а б л о ц к і. А я ўжо думаў, што сустрэнемся на тым свеце, калі гарматнае ядро гахнула па вайсковай скарбніцы, за якой пан Кубліцкі схаваўся.

К у б л і ц к і. І я так думаў, калі ворагі штурмавалі вазы з правіянтам, пад якімі сядзеў пан Заблоцкі.

З а б л о ц к і. Я дык недарэмна сядзеў — сёе-тое выседзеў. Воз перакуліўся, я — хап за мех ды ўцякаць. От зараз развяжу мех — падсілкуемся кілбаскаю! *(Развязвае мех.)* Што за д'ябал! Цьфу! Заміж кілбасаў — гнілыя яблыкі. Чорт пабірай гэтага прайдзісвета гетмана Трыбуховіча.

К у б л і ц к і. Гэта ж трэба — так падмануць сумленную шляхту. Яшчэ добра, што я пазычыў у скарбніцы торбу з залатымі дукатамі. Пойдзем у якую карчму — там за грошы і пачастуюць, і ў дарогу дадуць. *(Развязвае торбу.)* Авой! Што гэта?! Каменьчыкі заміж залатых дукатаў!

З а б л о ц к і. Каб ён выдах разам са сваім Гарбузом Восьмым і з князем Дрыгайлам заадно! Праз іх, праклятых, мы ў гэтую калатнечу ўхляпаліся.

Пры гэтых словах князь Дрыгайла ледзь не выпускае падзорнай трубы з рук і імгненна вяртаецца з Месяца на зямлю.

Д р ы г а й л а. Што-што? Хто насмеліўся праклінаць мяне, князя Дрыгайлу, у дзень маёй найвялікшай вікторыі?! *(Заўважае перапалоханых паноў.)* Гэта яшчэ што за абшарпанцы? Ага, усё зразумела — гэта дэзерціры з разбітага Гарбузовага войска. Або шпегі. Гэй, варта!

К у б л і ц к і, З а б л о ц к і *(разам)*. Здаёмся, здаёмся, ваша мосць!

Д р ы г а й л а. Ну, добра ўжо, бяру вас у палон. Што ўмееце рабіць? Гаспадарка ў мяне вялікая, але даглядаць яе не маю часу — назіраю праз падзорную трубу зоры ды Месяц.

К у б л і ц к і *(муляецца)*. Сказаць па праўдзе, ваша мосць, мы — шляхціцы, прывучаныя да высакародных заняткаў.

Д р ы г а й л а. Няма ў мяне для вас чыстае работы. Ёсць звычайная мужыцкая праца: гной растрасаць або скаціну пасвіць.

З а б л о ц к і *(чухае патыліцу).* Лепей тады ўжо скаціну пасвіць.

Д р ы г а й л а. Ну, то выганяйце каровы на пашу. Праца не надта мудрая, навучыцеся. Адно глядзіце, каб скаціна не ўбілася ў шкоду.

П а н ы выпраўляюцца пасвіць каровы. Дрыгайла зноў бярэцца за падзорную трубу. Рыкаюць каровы, ляскаюць пугі, тады ўсё сціхае.

Эх, хмара закрыла неба, не відаць ні зорак, ні месячыка. Трэба паглядзець, як там паны з каровамі ўпраўляюцца. *(Наводзіць падзорную трубу.)* Што такое – няма нідзе кароў, а паны назад вяртаюцца.

З'яўляюцца паны К у б л і ц к і ды З а б л о ц к і з бізунамі ў руках.

А дзе каровы?

З а б л о ц к і. У моры, ваша мосць, дзе ж ім яшчэ быць? Убіліся, праклятыя, у гарод, патрушчылі ўсё чыста – моркву, капусту, гуркі. Мы іх – пугамі, яны ўцякаць. Беглі, беглі ды забеглі проста ў сіняе мора. А адтуль іх калом не выб'еш, надта ўжо ім даспадобы прыйшлася морская капуста. Дарэмна мы з панам Кубліцкім бегалі па беразе ды ўпрошвалі, каб вярнуліся назад.

Д р ы г а й л а. Што за лухта? Не могуць каровы жыць у моры!

К у б л і ц к і. Чаму не могуць? Жывуць жа морскія каровы, вось і гэтыя неяк прызвычаіліся. А як добра цяпер будзе вашае мосці плаваць у госці да ангельскага караля! Будуць у моры і сырадой, і сыракваша, і смятана.

Д р ы г а й л а. Каб жа вы самі ў тым моры патапіліся, абібокі! І навошта я вас у палон браў? Ідзіце пасвіць гусей. Толькі глядзіце, гусь – птушка памяркоўная, трымаецца ў чарадзе, але і за ёю догляд патрэбны.

П а н ы выпраўляюцца пасвіць гусей. Дрыгайла цяжка ўздыхае і наводзіць на неба падзорную трубу. Гагаюць гусі, свішчуць дубцы, потым усё сціхае. Раптам Дрыгайла падхопліваецца з трона і абедвух рук хапаецца за падзорную трубу.

7. Зак. 826

Д р ы г а й л а. Што такое: на Месяцы паміж каменняў ды кратэраў гуляюць мае гусі!

З'яўляюцца зморcraаныя паны К у б л і ц к і ды З а б л о ц к і з дубцамі ў руках.

А дзе ж гусі?

З а б л о ц к і. А халера іх ведае, ваша мосць. Узняліся ў паветра ўсёй чарадой ды схаваліся паміж аблокамі. Пэўна што, надакучыла ім пасвіцца, то палётаюць крыху, разрухаюць крылы і вернуцца да вашае мосці.

Д р ы г а й л а. А гэта хто? *(Тыцкае пад нос пану Кубліцкаму падзорную трубу.)*

К у б л і ц к і *(дзівіцца)*. Няўжо гусі? Чаго іх на Месяц панесла, небаракаў? Там жа гола, пуста, ані травінкі. Агылі, агылі, злазьце з Месяца, даражэнькія, пагулялі, дый годзе.

Дрыгайла не вытрымвае і паказвае пану Кубліцкаму праз падзорную трубу дулю, якую труба спраўна павялічвае ў некалькі разоў.

Авой, што гэта? Фу, як непрыстойна. Хай вашамосць прабачыць, але зусім невыхаванае ягонае птаства — дулі з Месяца круціць!

Д р ы г а й л а *(стомлена)*. Былі б вы мужыкі — загадаў бы вас адперыць бізунамі на стайні. А са шляхты што возьмеш! Звялі мне ўсю гаспадарку, каб вас мядзведзь задраў. Адпраўляйцеся на пасеку пчолы даглядаць. Пчала — паслухмяная гмызурка, трымаецца сваёй дамоўкі. Там вадзічкі падальеце ў сподачак, там рамкі з сотамі паправіце — вось і ўся праца.

К у б л і ц к і. А яны не кусаюцца, вашыя пчолы?

Д р ы г а й л а. Калі і джыгне якая ў спіну або ніжэй — не бяды. Бо ў паноў, як бачу, раматус, а пчаліныя джалы добра ад гэтай хваробы лечаць.

П а н ы выпраўляюцца на пасеку, а Дрыгайла зноў утаропліваецца ў падзорную трубу.

К у б л і ц к і *(адыходзячы)*. Што б такое прыдумаць, каб пчолы паболей мёду цягалі? Можа, павесіць кожнай на шыю цэбар? Хай у цэбры мёд збіраюць.

З а б л о ц к і. Але хто тыя цэбры мыць будзе?..

## З'ява пятая

Дарога. З'яўляецца дзеўка Д р ы п а.

Д р ы п а. Куды ж гэта жаніхі мае падзеліся? Пайшлі – як скрозьдонна праваліліся, хоць бы вестку якую даслалі. А я ўжо галасіла-галасіла... *(Плача.)* Усе блізу валасы на галаве выдрала. *(Паказвае.)* Во, зірніце. А пасля думаю: пайду шукаць паноў. Трэці дзень у дарозе. *(Усхліпвае.)* А што гэта там, напе-радзе? Людзей-людзей – што кіем набіта. Ці не смургонскі кірмаш? А гоману – аж у вушах гудзе! Проста як чарадзей-ства, як насланнё якое.

Прабіраецца цераз кірмаш. Яе праследуюць пранізлівыя крыкі гандляроў, чыесьці рукі не даюць праходу, хапаюць за крысо світы.

Г а л а с ы. Дзеўка! Ты куды? Пачакай! Купі мармышкі!
– Не купляй у яго, лепей у мяне купі – во, смалы купі гарачай!
– Парашок для клапоў! Найлепшы ў свеце парашок для клапоў! Купіце – і праз месяц клапоў будзе поўная хата!
– Купі хусту! Купі перніка! Купі дзірку ад бубліка! Купі чорта лысага!

З нейкага будана выскоквае П а с т р ы г а ч у белым хвартуху, з аграмаднымі нажніцамі.

П а с т р ы г а ч. Шаноўныя мамзелі і мусью, хто хоча па-стрыгчыся па апошняй французскай модзе, валі сюды!

Дзеўка стала каля будана, губу адвесіўшы, і ўтаропілася на Пастры-гача.

Чаго зяпу раскрыла, шаноўная мамзеля?

Д р ы п а *(нясмела)*. Выбачайце, паночку, ці не вашэць стрыгла летась авечкі ў тутэйшага пана Кіндзюшкі?

П а с т р ы г а ч. Не, гэта не я! Я – з Парыжу, парызкі цы-рульнік, гэта па-вашаму пастрыгач. Магу й цябе пастрыгчы, шаноўная мамзеля. Станеш надта харошая: вочынна красі-вая, вужасна прыўкрасная.

Д р ы п а. Чаго мне стрыгчыся, калі я валасы павырывала з гора. Бяда ў мяне. Жаніхі мае недзе прапалі, пан Кубліцкі ды пан Заблоцкі... Не даводзілася, спадарыку, такіх сустракаць?

П а с т р ы г а ч. Гм... А якія яны на выгляд, твае жаніхі?

Д р ы п а *(задумваецца)*. Ну, такія, крыху худаватыя. А можа, і таўставатыя трошачку. Не сказаць, каб дужа высокія, але і не нізкія. У кожнага два вухі, адзін нос. Спераду.

П а с т р ы г а ч. Пардон, такіх багата. *(Схаваўся ў будане, з ляскам зачыніў дзверы і... праваліўся некуды разам з буданом.)*

Д р ы п а. Авой, куды гэта ён?

Да Дрыпы падскоквае Ц ы г а н к а.

Ц ы г а н к а. Пазалаці ручку, ясная паненка. Я табе паваражу, за каго пойдзеш замуж, скажу.

Д р ы п а *(дае Цыганцы грошы, працягвае руку)*. За каго замуж — я і так ведаю. За пана Кубліцкага ды пана Заблоцкага. От толькі куды яны падзеліся? *(Узіраецца.)* Ой, цётачка, дык вы ж мне і параілі іх на подзвігі адправіць! Вось яны і прапалі... Што мне зараз рабіць?

Ц ы г а н к а. Чакай, зараз паглядзім. Ну, у гэтых паноў цяпер добрае, салодкае жыццё пайшло, яны й думаць забыліся на жаніцьбу. Дый нашто яны табе, галубка? Табе суджана пайсці замуж за нейкага ганаровага чалавека, за цара або князя! Такая твая планіда.

Д р ы п а. А што гэта будзе за цар? Як яго зваць, цётачка?

Ц ы г а н к а. А пярун яго ведае. *(Правальваецца скрозь долна з трэскам, з грукатам.)*

Д р ы п а. Чаго гэта яны ўсе правальваюцца?

Г о л а с. Просім да нас у ціятр. Толькі адзін паказ! Паказваем прыстаўленне пра цара Максіміляна і яго непакорнага сына Адольку!

Д р ы п а. Пра цара? Ці не пра майго жаніха будуць паказваць? Трэба паглядзець. *(Прабіраецца бліжэй да «ціятра».)*

Прадстаўленне пачынаецца. Цар М а к с і м і л я н у бліскучай кароне, з доўгай рыжай барадой гукае да Фіцьмаршала.

Цар Максімілян. Гэй, Фіцьмаршал! Стань перада мной, як ліст перад травой!

Дрыпа *(сама сабе)*. Царок крыху стараваты, але нішто сабе, важны дзядзька.

Прыбягае Фіцьмаршал – усе грудзі ў медалях, штаны з кутасамі, шпоры звіняць.

Фіцьмаршал. Што пажадае ваша анпіратарская вялікасць?

Цар Максімілян. Правесці да мяне майго непакорнага сына Адольку!

Прыводзяць царэвіча Адольку. Ён у ружовай кашульцы, у запраўленых у боты портках. І нечым вельмі нагадвае князя Дрыгайлу.

Дрыпа. Ах, які маладзенькі, кучаравенькі! Якія штонікі ладныя! А што, як за гэтага пайсці замуж?

Цар Максімілян *(да Адолькі)*. Дык што, непакорны сын мой Адолька, пытаюся ў цябе: ты будзеш цара слухацца або не?

Адолька. Не буду, ваша анпіратарская вялікасць!

Цар Максімілян. Яшчэ раз у цябе пытаюся: будзеш мяне слухацца?

Адолька. Не буду, ваша анпіратарская вялікасць!

Цар Максімілян. У астатні раз буду пытацца: паслухаешся бацькі ці не?

Адолька. Не паслухаюся, ваша анпіратарская вялікасць!

Цар Максімілян. Фіцьмаршал! Зараз жа адсячы яму галаву!

Царэвічу Адольку адсякаюць галаву – пакацілася пад ногі цара Максіміляна.

Дрыпа. От табе і маеш. Ужо галаву адсеклі. Як жа цяпер жаніцца? Што гэта за жаніх – без галавы?

Цар Максімілян *(падымае адсечаную галаву і пачынае раўці)*. Авохці мне! Бедны, няшчасны сын мой Адолька! Чаго ж ты не слухаўся свайго татачкі?.. *(Кладзе галаву, здымае карону, адчапляе бараду і кажа абыякавым голасам.)* Прыстаўленне закончана! Плаціце грошы.

Д р ы п а. Як гэта — закончана? Бараду адчапіў — і ўжо закончана? А калі жаніцца? *(Кідаецца да цара Максіміляна.)*

Цар здзіўлена глядзіць на дзеўку Дрыпу, тады дзіка рагоча — і з грукатам, са стукатам правальваецца скрозьдонна. А за ім — і «ціятр», і ўвесь кірмаш. Дзеўка Дрыпа застаецца адна.

*(У роспачы.)* Бацюхны мае, куды ж яны ўсе пахаваліся? Як насланнё нейкае было! Бедная мая галованька! *(Кідаецца па сцэне.)* Дзе яны? Толькі што было жаніхоў як дроў, а цяпер — каб хоць адзін... Што рабіць? Шукаць трэба! А каго? Цара? Царэвіча? Паноў? Усё адно каго, галоўнае — некага шукаць. Буду шукаць, пакуль не знайду. Такая мая планіда! *(Выбягае.)*

## З'ява шостая

Увечары на пасецы. Паны К у б л і ц к і ды З а б л о ц к і няспешна ласуюцца мёдам. Глядзець пчолы ім, відавочна, больш даспадобы, чым пасвіць каровы або гусі.

З а б л о ц к і. Уладзіў нам князь Дрыгайла, дык уладзіў! Вось гэта праца: палежвай сабе ды чэрпай мёд лыжкаю.

К у б л і ц к і. І праўда, праца добрая, адно слова — шляхетная. Аднаго я баюся: каб які мядзведзь не залез на пасеку і не нарабіў бяды. Бо што казаў, адпраўляючы нас сюды, князь Дрыгайла? «Каб вас мядзведзь задраў!» Значыцца, тут здараюцца мядзведзі...

З а б л о ц к і. Нам, шляхціцам, ніякі мядзведзь не страшны. Не гэтакіх пачвараў з рэпы выганялі. Толькі каб ён не надумаўся рабаваць пчаліных вулляў... Надта ж ласыя мядзведзі да чужога мёду. *(Зачэрпвае вялікую лыжку мёду.)*

Тым часам зусім цямнее. На пасецы відаць толькі панскія постаці ды сілуэты пчаліных дамкоў. Паны трывожна ўзіраюцца ў цемру. Раптам чуваць нейчыя крокі, трэск суччa. Паны ўсхопліваюцца.

К у б л і ц к і. Ну, што я казаў? Што рабіць, калі гэта сапраўды мядзведзь падкрадаецца?

**З а б л о ц к і** *(з удаванай бадзёрасцю).* Што, што... Абкружым нахабніка і нападзем нечакана з абодвух бакоў. Звяжам пасамі, а як будзе супраціўляцца,– надаем па карку. Недзе тут я бачыў ладную жардзіну... ды вось яна. А што? Не заставацца ж без мёду.

**К у б л і ц к і.** А пакуль што лепей схаваемся. Як мядзведзь пакажацца, тады й нападзем на яго знянацку.

Хаваюцца. Неўзабаве з цемры ўзнікае таямнічая фігура, пачынае разбураць адзін з вулляў. Дабіраецца да мёду і жарэ яго, цмокаючы ад задавальнення. Мабыць, гэта і праўда мядзведзь.
Нечакана з двух бакоў на прыхадня накідваюцца паны К у б л і ц к і ды З а б л о ц к і. Уся гэтая валтузня ў цемры ледзь відаць, затое крыкі, лаянку і рыканне чуваць далёка, і то лаюцца не толькі раз'юшаныя пчаляры, але і напалоханы «звер».

Трымай звяругу!

**З а б л о ц к і.** Жардзінай яго па рэбрах! Ой! Ды не мяне, а мядзведзя!

**Г о л а с.** Авой! Балюча!

**К у б л і ц к і.** Уга, які валасаты!

**Г о л а с.** Адпусці чупрыну, дурань!

**З а б л о ц к і.** Вяжы яго пасам! Папаўся, валацуга! Не будзеш болей есці чужога мёду.

**Г о л а с.** А каб вас пярун забіў!

**З а б л о ц к і.** Яшчэ й лаецца, хамула.

**К у б л і ц к і.** А мы яму цэбар на галаву надзенем, каб не было чуваць мядзведжае лаянкі.

Накідваюць «зверу» на галаву цэбар. Цяпер «мядзведзь» глуха бубніць у цэбры, але не разабраць што.

**З а б л о ц к і.** Ды не вырывайся ты, халера, а то як дам зверху жардзінаю, дык адразу ўсе зоры ў небе ўбачыш, і дрыгайлаўская труба не спатрэбіцца.

**К у б л і ц к і.** Во, павядзем яго да князя Дрыгайлы! Няхай ведае, якія ў яго храбрыя ды спрытныя пчаляры.

**З а б л о ц к і.** Не будзе абзываць нас абібокамі ды нядзарамі. Гэта ж такога звера ўпаляваць, ды амаль голымі рукамі! А што, можа, гэта і ёсць сапраўдны геройскі ўчынак?

Кублiцкi. От, пабачыла б нас зараз шаноўная паненка Дрыпа!

Пакiдаюць пасеку, папiхаючы ў спiну злоўленага «звера».

## З'ява сёмая

На пагорку сядзiць на сваiм бярозавым троне князь Дрыгайла i, ведама ж, глядзiць у падзорную трубу.

Убягае дзеўка Дрыпа, заўважае князя Дрыгайлу i проста вачам сваiм не верыць: гэтак той падобны да Адолькi.

Дрыпа. Маладзенькi! Кучаравенькi! У белых штонiках! У ружовай кашульцы! Ён! Адолька!!! *(Кiдаецца да Дрыгайлы i зграбае яго ў ахапак.)*

Дрыгайла *(ледзь вырваўшыся з Дрыпiных абдымкаў)*. Ты чаго, дзеўка, блёкату аб'елася? Якi я табе Адолька?

Дрыпа. Ды той самы, якому галаву на кiрмашы адсеклi.

Дрыгайла. А чым жа я, па-твойму, у трубу гляджу? А? Нiякi я не Адолька!

Дрыпа. Не Адолька? А хто ж ты такi?

Дрыгайла *(з гонарам)*. Я найсвятлейшы князь Дрыгайла!

Дрыпа *(узрадавана)*. Князь? Тады ўсё адно павiнен са мной жанiцца! Такая нашая планiда. *(Хапае Дрыгайлу за руку.)*

Дрыгайла *(вырываецца)*. Ды хто табе такое сказаў?

Дрыпа. Кабета на кiрмашы сказала. А пасля скрозьдонна правалiлася.

Дрыгайла *(пакруцiўшы пальцам каля скронi, убок)*. Нейкая шалёная дзеўка на маю галаву звалiлася! *(Да Дрыпы, нiбы згадзiўшыся.)* Добра-добра, ажанюся, толькi пайду новыя штаны надзену. *(Хоча збегчы, але Дрыпа яго не выпускае.)*

Дрыпа *(няўмольна)*. Не, галубок, не ўцячэш. Тыя паўцякалi, а табе не ўдасца. Я цяпер вучаная!

Дрыгайла, спалохаўшыся не на жарт, нарэшце вылузваецца з абдымкаў Дрыпы i дае дзёру. Дрыпа бяжыць за iм, спрабуе дагнаць, але Дрыгайла спрытна хаваецца ў нейкую нару.

Бач, які жэўжык, уцёк-такі. А шкада, нішто сабе князёк быў. І труба ў яго нейкая адмысловая. *(Падыходзіць да падзорнай трубы і зазірае ў яе.)* Божухна, якое хараство! А-ёй, колькі зораў! А што гэта за белая дарога ідзе цераз усё неба, быццам малако хто разліў?

Дрыгайла *(не вытрымаўшы, вытыркае галаў з нары).* Гэта Птушыны Шлях, а яшчэ кажуць: Млечны.

Дрыпа *(зачараваная).* А як вунь тыя сем зорачак называюцца, што блішчаць, як дыямэнты?

Дрыгайла *(напалову высунуўся).* Гэта па-вучонаму Пляяды. Або, па-простаму, Валоскі. Чула?

Дрыпа. Ага, чула. Мне татка паказваў, калі коней ганялі ў начлег. Яшчэ Воза ведаю, Мілавіцу. Але ніколі не бачыла зоркі так блізка. Хто ж такі разумны, што трубу гэтую змайстраваў?

Дрыгайла *(вылез з нары, з гонарам).* Я, князь Дрыгайла, вядомы на ўвесь свет астраномам, змайстраваў гэтую падзорную трубу. Давай, незнаёмая паненка, я табе зорку Венеру пакажу. *(Наводзіць трубу, напявае: «Зорка Венера ўзышла над зямлёю...»)*

Недзе ціхенька зайграла скрыпка. Дыялог адбываецца пад гэтае гранне.

Дрыпа *(глядзіць у трубу).* Ну і цуды! Такое і ў ціятры не пабачыш! Дай Бог князю здароўя, што такую карысную рэч змайстраваў.

Дрыгайла *(аглядае Дрыпу з ног да галавы).* А ты і не такая дурная, дзеўка. З табой і жаніцца можна. Як тваё імя, разумная паненка?

Дрыпа. Зваць мяне Параска, а яшчэ — дзеўка Дрыпа. Гэта мяне так дражняць, што не магу сабе справіць новай сукні.

Дрыгайла. «Дрыпа» — гэта немілагучна неяк. Я буду зваць цябе Параска. *(Задумваецца.)* Дык што, ці не перадумала яшчэ, Параска, за мяне замуж ісці? Будзем разам у падзорную трубу глядзець... Пойдзеш, га?

Дрыпа застыдалася.

*(З трывогай.)* Што, можа, не падабаюся ўжо?

**Д р ы п а.** Дзе там... Наадварот...

Князь і Дрыпа абняліся, мілуюцца. Грае скрыпка.

*(Млосна.)* Толькі... гэта нічога, што за мяне ўжо сваталіся паны Кубліцкі ды Заблоцкі? Дзеля мяне пайшлі геройствы чыніць... Што з імі цяперака рабіць?

**Д р ы г а й л а** *(млосна).* А, я іх ведаю. Яны ў мяне каровы пасвілі, а цяпер на пасецы служаць, мёд лыжкамі грабуць. У іх там мядовы месяц, ім цяпер не да гераізму... *(Зазірае ў падзорную трубу.)* Чакай, а ці не яны там ідуць, лёгкія на ўспамін? Ды яшчэ з сабой нейкае пудзіла цягнуць...

І адразу ідылія знікае. Змоўкла скрыпка. Чуваць крыкі паноў, мядзведжы рык. Увальваюцца п а н ы з «мядзведзем». Усчыняюцца мітусня, дзікі вэрхал.

**К у б л і ц к і.** Ага, якраз і паненка Дрыпа з'явілася дарэчы! Я вось геройства ўчыніў — злавіў на пасецы драпежнага мядзведзя.

**З а б л о ц к і.** Брэшаш! Гэта я яго схапіў!

**К у б л і ц к і.** Няхай сам мядзведзь скажа, хто яго жардзінай па рэбрах аперазаў.

Здымаюць з галавы «звера» цэбар і са здзіўленнем пазнаюць у «мядзведзю» гетмана Т р ы б у х о в і ч а.

**З а б л о ц к і.** Каго я бачу!

**К у б л і ц к і.** Вялікі гетман Трыбуховіч!

**Г е т м а н.** Так, гэта я, мае храбрыя воі. *(Пачынае гневацца.)* Дык гэта вы мяне, свайго камандзіра, жардзінай аперазалі? Ану, развяжыце мяне, чаго раты паразяўлялі?!

Паны запытальна глядзяць на князя Дрыгайлу, той дае загад развязаць палоннага, што паны і робяць, праўда, неахвотна.

**Д р ы г а й л а.** Але чаму пан гетман стаўся такі касматы ды страшны?

**Г е т м а н.** Бо, адступіўшы з поля бою, хаваўся ад ворага па лясох, адседжваўся ў карчох, у норах. От і здзічэў трошачкі ды поўсцю крыху аброс.

**Д р ы п а.** Дый не крыху, а добра-такі, дзядзечка, аброс!

Заблоцкі *(змрочна).* Так яму і трэба. Хто заміж кілбасаў у торбу рознае брыды напхаў?

Кубліцкі. А хто ў мяхі заміж залатых дукатаў каменне насыпаў?

Заблоцкі. У горла б табе тыя кілбасы ды каменне!

Гетман. Што-о? Са мною, каронным гетманам, так гаварыць? Ды я каралю Гарбузу на вас данос напішу! Ды я вас пад трыбунал!

Дрыгайла. Хай шаноўны гетман не дужа спадзяецца на ласку караля Гарбуза. Бо ўжо абвешчаны каралеўскі загад: гетмана Трыбуховіча адшукаць, арыштаваць, у вязніцу кінуць – за тое, што ўцёк з поля бою, кінуўшы войска ды зброю.

Гетман *(спалохана).* Што я чую? Гора мне! Давядзецца перабегчы да ангельскага караля. *(Да паноў.)* Хто са мной, панове? Хто ахвочы да новых геройстваў?

Заблоцкі. Не, толькі не я! Болей не абдурыш.

Кубліцкі. Нешта не цягне нас на геройствы – надта небяспечная гэта рэч.

Дрыпа. Панове, панове, а як жа вашае сватанне?

Заблоцкі. Якое да д'ябла сватанне! Не хочам, стаміліся мы. Мы на пасецы застаемся.

Кубліцкі. Во дзе салодкае жыццё!

Дрыгайла *(усцешана).* Ну, добра, панове, хай будзе павашаму. Давядзецца мне самому з Параскаю жаніцца. Дазваляю вам жыць на пасецы. Адно прашу – мёду на вяселле пакіньце хоць трохі.

Кубліцкі *(успомніўшы).* Чакайце, а як жа нашая рэпа? Прападзе без нас?

Дрыгайла. А рэпу вашую хай пан гетман вартуе. Чым па норах хавацца ці ў далёкі свет ехаць, хай лепш у панскай хацінцы жыве. Там яго кароль не знойдзе.

Гетман. Хораша прыдумана!

І адразу пачынаецца вяселле князя Дрыгайлы і паненкі Дрыпы, на якім гуляюць усе персанажы казкі: паны Кубліцкі ды Заблоцкі, гетман Трыбуховіч, Страшыдла і Кура-Шчабятура, Цыганка і Пастрыгач са смургонскага кірмашу, каровы з мора і гусі з Месяца.

**Г о с ц і**. Шчасця маладым на доўгія гады!

– Вось вам медзі, каб дзеці былі, як мядзведзі!

– Дару Дрыпе грошы, каб мужык быў харошы!

**С т р а ш ы д л а**. Цьфу!

**Г о с ц і** *(спуджана)*. Чаго ты?

**С т р а ш ы д л а**. Віно нейкае горкае!

**Г о с ц і** *(узрадавана)*. Горка! Горка! Горка!

**З а б л о ц к і** *(да пана Кубліцкага, падняўшы чарку)*. А добра, што мы раздумаліся сватацца да дзеўкі Дрыпы. Ці мала што яшчэ ёй у галаву стрэльне!

**К у б л і ц к і** *(закусваючы)*. Ведама, добра. А так – кожны пры сваім інтарэсе. Гетман Трыбуховіч – пры рэпе. Князь Дрыгайла – з падзорнай трубой ды з маладой жонкай. А мы – з пчолкамі ды з мёдам. *(Падымаючы чарку.)* Галоўнае – што? Галоўнае, каб кожны быў на сваім мейсцы. Там, дзе яму лепш. Тваё здароўе, пан Заблоцкі!

**З а б л о ц к і**. Жыві доўга, пане Кубліцкі!

*З а с л о н а*